Opłata pocztowa opłacona ryczałtem. Цана асобнага нумару 25 грошай.

№ 20. Вільня, 27 ліпня 1927 году. Год I.

# БЕЛАРУСКІ ДЗЕНЬ

ТЫДНЁВАЯ ЧАСОПІСЬ

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: Wilno (Вільня), Ціхая вул. 4, (альбо Міцкевіча 15) кв. 20. Тэлефон № 1207

Падпісная цана: На 1 месяц—1 зл., на 3 месяцы—3 зл., на паўгода — 5 зл. і на год — 9 зл. Заграніцу ўдвая даражэй.

Цана абвестак: За цэлую апошнюю старонку—120 зл., за 1/2—65, за 1/4—35, за 1/8—20 зл. За мілімэтравы радок перад тэкстам 25 гр., у тэксьце 30 гр. і за тэкстам 10 гр.

## Аб Беларускім Нацыянальным Камітэце.

Ад 1919 г. да апошніх дзён істнаваў у Вільні Беларускі Нацыянальны Камітэт, які рэпрэзэнтаваў беларускае жыхарства, што жыве ў межах Польшчы. У склад Камітэту ўваходзілі прадстаўнікі ўсіх беларускіх арганізацыяў. Спачатку Нацыянальны Камітэт запраўды яднаў усе, якія істнавалі, беларускія арганізацыі. Нацыянальны Камітэт праводзіў у 1922 г. выбары ў Сойм, якія далі магчымасьць беларускаму народу мець сваё, хоць і досіць няўдалае, парлямэнцкае прадстаўніцтва. Ад часу выбараў, аднак, Нацыянальны Камітэт траціць сваё значэньне, як агульна-нацыянальная установа, на карысьць Парлямэнцкага Прадстаўніцтва. Такая пастаноўка справы была нездаровай. Нацыянальны Камітэт і надалей павінен быў захаваць свой характар агульна - нацыянальнай установы, якой павінна было быць падпарадкавана парлямэнцкае прадстаўніцтва ў сэнсе складаньня справаздачаў з свае працы і адтрымліваньня дырэктываў для далейшай працы. Спачатку паслы далі некалькі справаздачаў. Нацыянальны Камітэт, аднак, ня здолеў утрымаць сябе, на належным месцы, штораз то больш траціў значэньне і ўрэшце дайшоў да таго, што агранічыў сваю працу да скліканьня раз у год сходаў, дзеля аднаўленьня мандатаў і выбару прэзыдыуму. Пакуль істнаваў Пасольскі Клюб, як цэласьць, што яднала ўсіх пасլоў, датуль і ціха было ў Нацыянальным Камітэце. Пасьля падзелу, пачалася барацьба за здабыцьцё уплываў ува ўсіх грамадзкіх установаў. Пачалася барацьба і ў Нацыянальным Камітэце. Паўстаўшая так хутка Сял.-Раб. Грамада старалася здабыць усё для сваіх уплываў і пачала барацьбу ў Нацыянальным Камітэце, дзеля змаёрызаваньня яго (здабыцьця большасьці). Рэшта сяброў Нацыянальнага Камітэту, па зразумелых прычынах, не хацела дапусьціць да таго, каб Нацыянальны Камітэт, як агульна-нацыянальная установа, зрабіўся толькі экспозытурай „Грамады". На такім падкладзе пачаліся ходаньні. Прынцыпова справа ня вырашылася, дзякуючы таму, што Нацыянальны Камітэт ня меў ужо таго аўторытэту, які меў да часу выбараў, па-другое проціграмадаўская опозыцыя не зрабіла рашучых крокаў. Справа асталася ў паветры. Тымчасам наступілі арышты і ліквідацыя „Грамады". Ізноў справа Нацыянальнага Камітэту, як агульна-нацыянальнага прадстаўніцтва, зрабілася палючай справай. Нацыянальны Камітэт не праяўляў, аднак, ніякай дзейнасьці. Ён меў у апошнія часы надта аднабокі характар, ня можна сказаць, каб быў агульна-нацыянальным прадстаўніцтвам. І вось 2 ліпня часьць сяброў Нацыянальнага Камітэту з паслом Ярэмічам на чале склікала сход і выбрала новы прэзыдыум Нацыянальнага Камітэту ў складзе старшыні сэнатара Багдановіча, сяброў Ярэміча і Карузы. Гэта

ўзварухнула з летаргічнае немачы рэшту сяброў нацыянальнага камітэту (большасьць), якая склікала 14 ліпня сход і, ня прызнаўшы правамоцным паўстаўшага другога Камітэту, назвала Ярэміча і яго прыхільнікаў... машэньнікамі.

Разглядаючы справу об'ектыўна, мусім прызнаць, што трэба было шукаць нейкага выхаду з стварыўшайся сытуацыі і стараццa рэарганізаваць Камітэт так, каб ён сапраўды быў нацыянальнай установай, бяз розьніцы „інтэрнацыянальных" дамешкаў. Але дарога, якую выбраў пас. Ярэміч, — не адпаведная. Бо якім правам ён можа засноўваць новы Нацыянальны Камітэт? Пісьмо, якое ён ад імя новага Нацыянальнага Камітэту пераслаў бывшаму старшыні Нац. Камітэту грам. Савіцкаму, забараняючы склікаць сход і жадаючы пераданьня новаму камітэту ўсіх актаў, кажа само за сябе.

Ня тудой дарога да аздараўленьня хворае атмосфэры! Нацыянальны Камітэт павінен аб'яднаць усіх шчырых беларусаў, такі Нацыянальны Камітэт стаяў-бы на вышыні сваіх заданьняў. Інакш усялякія спробы не дадуць ніякіх позытыўных рэзультатаў. Нацыянальны камітэт ня можа быць экспозытурай ані адных, ані другіх палітычных партыяў, інакш ён траціць свой агульна-нацыянальны характар. Хворыя амбіцыі паасобных адзінак не павінны адыгрываць ніякай ролі. І калі не паўстане Нацыянальны Камітэт пад лёзунгам адналітага нацыянальнага фронту, датуль нацыянальныя камітэты будуць рэпрэзэнтаваць паасобных адзінак, і будуць толькі таварыствамі, „узаемнай адорацыі". Цікаўна ад'значыць, што на чале аднаго Камітэту стаіць чалавек моцна ганарованы расейцамі, больш праваслаўны, чым беларус. Другі старшыня таксама расейскага нахілу, які ўсюды ў публічных месцах непрыпадкова стараецца заўсёды „из'ясняться" толькі на „московском наречии белорусского языка".

Грамадзянства беларускае павінна захавацца з рэзэрвай, як да аднаго, так і да другога нацыянальнага камітэту, пакуль камітэты гэныя займаюцца толькі грызьнёй і лаянкай ды барацьбою паасобных адзінак паміж сабою.

*Беларус.*

## „Расейскае Народнае Аб'яднаньне".

Недабіткі царскай Расеі, перапалоханыя пашырэньнем беларускай нацыянальнай сьвядомасьці, заварушыліся.

Маючы на мэце ажыцьцяўленьне свайго трохкалярoвага ідэалу і дбаючы аб павароце на Беларусь нацыянальнага і соцыяльнага прыгону, царскія зубры павялі арганізацыйную падрыхтоўку.

Інсьпіраваныя замежнай монархічнай эміграцыяй, расейскія элемэнты, згуртованыя навакол асобы пасла Серебренникова закладаюць сваю палітычную арганіза-

## АЛЕСЬ ЧАРВЯКОЎ.

*(З прычыны яго звальненьня з пасады старшыні Ц.В.К.Б.С.С.Р).*

Які сэнс таго, што адбываецца сягоньня ў Менску?

Як вядома, беларускі нацыянальны рух знаходзіўся там за апошнія пяць гадоў пад значным уплывам Алеся Чарвякова. Імя яго популярна сярод усіх беларусаў, ня гледзячы на тое, што Чарвякоў зьяўляецца камуністым, сябрам тае партыі, якая трымае ў сваіх руках уладу ў Б.С.С.Р. і якую ненавідзіць усё сялянства.

Пасьля звальненьня праф. Ігнатоўскага з пасады Народнага Камісара Асьветы ў 1925 годзе, — Чарвякоў застаўся адзіным, больш-менш уплывовым, камісарам, ад якога можна было чакаць шчырых крокаў на карысьць беларускага народу і беларускай культуры. Роля Чарвякова ў ствараньні ўсходняе, маскоўскае орыентацыі беларускага нацыянальнага руху настолькі значная, што сучасьніку аб гэтым вельмі трудна пісаць, хіба толькі гісторык зможа быць бесстаронным.

Шчыры беларус, сябра б. Соцыялістычнае Грамады, сын беднага селяніна Ігуменскага павету, хітры палітык, які больш маўчаў, чымся гаварыў аб сваіх праўдзівых замерах і мэтах, — Чарвякоў быў як-бы ахвяраю беларускага народу, адданаю камуністым і маскоўскім агентам, ахвяраю, за якую Масква павінна была плаціць часовымі уступкамі ў галіне будаўніцтва беларускае школы і культуры. Імя Чарвякова, які зьвязаны быў інтымна з большасьцю старых адраджэнцаў-беларусаў, злучала ўсю беларускую інтэлігенцыю навакол позытыўнае працы ў Інстытуце Беларускае Культуры, ў унівэрсытэце, ў школе, ў тэатры. Нават ідэолёгічныя праціўнікі камуністых, нават самыя заўзятыя ворагі Масквы не маглі выступаць проціў Чарвякова, які, знаходзячыся на адказных савецкіх пасадах, спачатку, як старшыня Савету Народных Камісараў, а пасьля, як старшыня Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту Саветаў і старшыня ўсяго С.С.С.Р., рабіў усё, што мог, каб адваяваць ад Масквы магчымасьць пашырэньня беларускае нацыянальнае сьведамасьці і культуры. Знаходзячыся за кулісамі беларускага нацыянальнага руху, ён спрытна кіраваў усімі беларусамі, ледзь ня ўсёю беларускаю інтэлігенцыяю. Для ўсіх ён знайшоў працу. І Лёсік

цыю. Гэткім чынам, у сакавіку 1926 году, утварылася „Расейскае Народнае Аб'яднаньне" ў Польшчы.

Гожа адцеміць, што і да гэтае даты былі спробы стварэньня на „Крэсах" якога-колечы расейскага палітычнага саюзу.

Так, напрыклад, ведамы расейскі эс-эр Віктар Чэрнов, падчас свайго пабыту ў Польшчы, памыкаўся з'арганізаваць у Заходняй Беларусі і на Валыні партыю расейскіх соцыяль-рэвалюцыянэраў.

Ёсьць ведама, што дзеля стварэньня расейскай эс-эраўскай партыйнай групы, перш-за-усё, патрэбна расейскае насяленьне, якога ў межах Польскай Рэспублікі, за малым выняткам, ня бачым. Гэта змусіла Чэрнова зрачыся свайго намеру.

Але тое, чаго ня мог дапяць В. Чэрнов, замест яго зрабіла расейская чорная сотня.

Выкінутыя хваляй рэвалюцыі з сваіх маёнткаў і палацаў, расейскія памешчыкі, палкоўнікі і ўсялякага роду „бывшие люди" ў контакце з жменькай мясцовых рэнэгатаў, арганізаваўшы спачатку расейскае таварыства дабрадзейнасьці, ператварылі яго ў 1926 г. ў „Расейскае Народнае Аб'яднаньне".

У сучасны мамэнт істнуюць абедзьве гэтыя арганізацыі, пры чым тыя-ж самыя асобы, якія зьяўляюцца сябрамі „таварыства дабрадзейнасьці" — адначасна фігуруюць, як дзеячы г. з. „Народнага Аб'яднаньня".

Аб дабрадзейнасьці дабрадзейнага таварыства пісаць нявარта і наагул гэта нас менш за ўсё цікавіць, прыглядзімся толькі бліжэй да запраўднага аблічча Расейскага Народнага Аб'яднаньня.

Арганізацыя гэта цалком опэрэтачная. Бязумоўна гэтае Аб'яднаньне ніякага рэальнага значэньня ня мае. Каб зьвярнуць на сябе ўвагу заграні́чнай опініі і прэсы, русафільскія марыянэткі склікалі львоўскі зьезд, які пастанавіў беларусаў і украінцаў, як дзьве асобныя нацыянальнасьці, скасаваць.

Расейцы — гэта „народ-богоносец", а беларусаў і украінцаў як „здраднікаў", „изловить и повесить" — вось галоўная тэза львоўскага зьезду. Між іншым, трэба ад'значычь, што львоўскі зьезд выклікаў буру воплескаў на балонках польскае рэакцыйнае прэсы.

Асначнымі рысамі „Народнага Аб'яднаньня" ёсьць адсутнасьць палітычнай пляцформы і яўная беспрынцыповасьць. Да апошніх часоў гэтая арганізацыя ня выдала друкам свае палітычнае праграмы. Далей, што датычыць беспрынцыповасьці „истинно-русских" дзеячоў, дык неабходна прытачыць наступны надта характарны прыклад.

Тыя-ж самыя паны, якія на львоўскім зьезьдзе вынеслі прысуд сьмерці ўсяму Беларускаму народу, падчас выбараў у Віленскую меставую раду, зблёкаваліся з пэўнай беларускай групай дзеля супольнай выбарнай працы.

Красамоўней за гэта нічога быць ня можа.

Варта зьвярнуць увагу на тое, што „Расейскае Народнае Аб'яднаньне ў Польшчы", не зважаючы на упрывілеяванае налажэньне расейскіх павадыроў, ня мае на'т уласнага органу; некалькі гадоў, як проектуюць расейцы выдаваць сваю часопісь, але ня маюць здаецца дзеля гэтага ані моральных магчымасьцяў, ані матар'яльных.

Адсутнасьць расейскага насяленьня і немагчымасьць распрацаваньня паважнай і здаровай ідэолёгіі—

---

і Смоліч—б. заўзятыя палянафілы, і Я. Колас і Я. Купала, далёка не камуністыя па духу,—і некаторыя былыя беларускія эс-эры, адным словам чуць ня ўсе найбольш уплывовыя беларусы знайшлі ў Менску сабе працу, дзякуючы Чарвякову. Ён бараніў беларусаў перад рэпрэсіямі Г. П. У., на сваю адказнасьць выпушчаў на волю арыштованых за нацыянальную працу, ён дабіваецца амнэстыі для беларускіх эмігрантаў, ворагаў савецкага ладу, ён прыцягвае беларускую інтэлігэнцыю ў Менск з Вільні, з Прагі, з Коўны, з Бэрліну.

Заснаваньне Беларускага Унівэрсытэту і Інстытуту Беларускае Культуры, пашырэньне тэрыторыі БССР на Віцебшчыну і Гомельшчыну, ўсё тое, што так імпонавала беларускай нацыянальнай сьвядомасьці, ўсё гэта больш-менш зьвязана з імем Чарвякова, які выкарыстоўваў бальшавіцкую доктрыну і памылкі польскіх урадаў, каб узмацніць пазыцыю менскіх беларусаў.

Трудна і немагчыма сягоньня гаварыць аб тым, ці Чарвякоў—слуга Масквы і яе агэнт, трудна судзіць ці ён выкарыстоўваў Маскву, ці Масква выкарыстоўвала яго ў сваіх мэтах. Адно бясспрэчна: А. Чарвякоў быў фактычным галавою беларускага нацыянальнага руху ў Менску і галоўным тварцом усходняга кірунку, які захапіў пад свой уплыў ледзь ня ўсе культурныя сілы беларусаў ня толькі Менску, але і Вільні. І вось сягоньня гэты самы Чарвякоў, гэты „бог" усходняе орыентацыі—звольнены. „Мавр сделал свое дело — мавр может уйти!" — гэтак падзякавала Масква Чарвякову за яго верную службу маскоўскаму імпэрыялізму.

Кнорын, той самы Кнорын, які гатоў павесіць усіх беларусаў на адну асіну, Кнорын,—гэты тайны вораг беларушчыны і асабісты праціўнік Чарвякова, прыехаў ізноў у Менск, каб даканаць подлага акту—адсунуць Чарвякова і яго прыхільнікаў ад усякага ўплыву на палітычнае і грамадзкае жыцьцё і скруціць беларусаў і іх рух. Гэты акт ужо дакананы. Беларускі Менск застаўся без свайго галавы, а ўсходнія надзеі—без таго мосту, які хацеў зьвязаць усю Беларусь з Маскоўшчынай. Тыя, што верылі, мелі ілюзію, што Беларусь можа быць пабудована з Масквы—аказаліся пры разьбітым карыце, а беларускі нацыянальны рух на пераломе паміж Усходам і Захадам.

*Г.*

вось што разьбівае лятуценьні зьбіральнікаў „земли русской“.

Дзеля пашырэньня сваіх ідэяў расейскія дзеячы паслугоўваюцца львоўскай тыднёвай маскватфільскай газэцінай „Русскій Голосъ“, друкованай у якімсь яшчэ недасьледаваным філёлёгамі „украінска-тульскім“ жаргоне.

Канчаючы гэты кароткі агляд, трэба сказаць, што апошні і аканчальны ўдар адтрымаюць русафілы падчас выбараў новага Сойму. Ніякая агітацыя абмаскаўленага духавенства не паможа.

Беларуская вёска прачнулася, ўстала на роўныя ногі й няпрошаным апякуном ня дасьць сябе больш баламуціць. Падчас новых соймавых выбараў, беларускі селянін уваб'е асінавы кол у магілу апошніх могіканаў „единой-недѣлимой“.

*Il dисе.*

## Корэспондэнцкі.

### Дзікая вёска.

Прышлося мне быць 17 ліпня на вясельлі ў вёсцы Падлесьсі, Гарадзейскай воласьці, Нясьвіскага павету. Сумнае ўражаньне адтрымаў я ў гэтай вёсцы і таму ахрысьціў я „дзікай“. Вёска вялікая: 200 двароў і паўтары тысячы жыхароў, выключна беларусаў, але жыхары там нясьведамы нацыянальна. Жыцьцё ідзець у гэнай вёсцы нейкім дзіўным парадкам. П'янства, бойкі і болей нічога. Паважных і разумных хлапцоў тут амаль няма. Гледзячы на жыцьцё моладзі гэтай вёскі, сумна робіцца чалавеку, які ведае, што вінавата гэтаму цемната. Кожны малады хлапец мае ў кішані „рызіну“, — так тут называюць гумовы, акручаны дротам, бізун на канцы з воловам, або з гіраю. Гэтая прылада служыць ім да бойкі. І жыцьцё сходзіць на бойках такімі „рызінамі“. На вясельлі, на якім я быў, як пачалі біцца ад раніцы, дык біліся ўвесь дзень аж да ночы, яшчэ і на другі дзень аж да паўдня. У рэзультаце ўсе мелі пабітыя галовы. Я думаў, што гэнае дзікае здарэньне здарылася толькі адзін раз, але, як я даведаўся, кожнае вясельле не абходзіцца бяз бойкі, так сама вечарыны і іншыя сходы. Усе тут: жанчыны і мужчыны, маладыя і старыя займаюцца і вераць у чары. Сярэднявечча дый годзі! Як мы ехалі з маладым, то ўся дарога была закідана пучкамі каласкоў, зьвязанымі нейкім дзіўным спосабам, рознакаляровымі ніткамі, з сотняю а мо' і больш вузельчыкаў. Былі там агаркі ад сьвечак, голкі, старыя монэты і іншыя рэчы, якіх пералічыць немагчыма. Малады сядзеў на возе і дрыжэў, а я сьмяяўся з гэтых чараў. Прыехаўшы да маладой, як толькі бабы даведаліся, што былі чары, пачалі іх адрабляць. Нарабілі крыжыкаў з голак і пазатыкалі маладой і маладому ў грудзі, напаілі іх нейкаю вадою, пералітаю цераз прабой і нашэптанай, наклалі маладой і маладому старых монэтаў у чаравікі, словам, чарам ня было канца. Тымчасам, хлопцы на вуліцы ўжо біліся „рызінамі“.

Шкада цябе, вёска Падлесьсе, што ты жывеш у такой цемнаце, шкада цябе, моладзь падлеская, што ты, апрача папойкі і пабойкі, нічога ня робіш! Робіцца гэта ў той час, як іншыя вёскі далёка вас выперадзілі ў культурнай працы, якая вядзе людзей і народы да лепшае будучыны. Кіньце вы дзікае жыцьцё, а вазьмецеся за працу культурна-асьветную. Чытайце беларускія кніжкі, газэты, стаўце спэктаклі, як гэта робіць моладзь іншых вёсак, змагайцеся з цемнатою ўсялякімі спосабамі і ўсімі сіламі. У братэрскай згодзе паміж сабой,

# Аб беларускай прэсе.

Газэтная пісаніна пачала ўрэшце шырыцца на нашай шматпакутнай Беларусі. Гэтае зьявішча мо' каго вельмі цешыць, але трэба аглянуцца крытычна навокал і зразумець тое, што значыць гэта абсолютна недарэчная газэтная пісаніна.

Калі ўважліва пригледзімся, чым займаюцца цяпер беларускія газэты, пачынаючы ад крайніх „левых“ ды канчаючы крайнімі „правымі“, дык убачым, што ўсе яны займаюцца пераважна палітыкай і лаянкай, пры чым палітыка ўвасабляецца ў постаць лаянкі, а лаянка набірае значэньня палітыкі. З гэтага вар'яцкага злучэньня лаянкі і палітыкі родзіцца беларуская палітычная прэса. Хто ёю кіруе, хто, гэтак кажучы, уграз душою ў прэсавыя справы, той мо' мімаволі ня бачыць таго, што значыць газэтная пісаніна, але, стоячы з боку і гледзячы на газэтную дзейнасьць бяз ніякіх хваравітых паняцьцяў, пакуль зразумеем у чым справа, дзівімся на тое, што можа значыць увесь гэты бруд, гэтая палітычна - лаянская хвароба; але калі зразумеем ейнае значэньне, дык нейкі боль агартае душу за нясчасны беларускі народ, які знаходзіцца ў цемры, ды якога да таго-ж вядуць сьляпыя правадыры крок за крокам у нямінучую прорву. Бо да чаго-ж, калі не да прорвы можа дайсьці наш няшчасны народ, якому, замест асьветы і зразуменьня праўды, нясуць газэтную атруту палітыкі і лаянкі.

Успамінаецца наш даўнейшы лёзунг: «адзінае на ўсю Заходную Беларусь беларускае газэты», якая клічучы падпісчыкаў абяцала знаёміць з тым, што дзеецца ў сьвеце. Цяпер нешта ніводная газэта аб гэтым не ўспамінае, бо мусі яны забыліся знаёміць народ з тым, што дзеецца ў сьвеце і больш зварочваюць увагу на свае асабістыя і партыйныя разрахункі. Два-тры гады назад газэты пісалі так-сяк аб нацыянальных справах, дык цяпер аб гэтым зусім забыліся і, галоўным чынам, вядуць полеміку, якая, падобная да лаянкі вясковых бабаў, якія ад злосьці і ненавісьці бэсьцяць адна адну гэтак, што сорамна паўтараць і ілюструюць сваю лаянку жэстамі, ад якіх сорамна робіцца, гледзячы з боку.

Гэтая баталія мо' й цікавіць каго, як некалі рымскіх цэзараў цікавілі баі глядыятараў, але ў нашыя часы культуры і інтэлектуальнага разьвіцьця грамадзянства, няма, здаецца, патрэбы ў гэткіх турні-

будуйце лепшую долю. Бо жыцьцё, якім цяпер жывеце, гэта адзін сорам перад Богам, людзьмі і перад народам беларускім.

БІЗУН.

## Вынікі выбараў у м. Стоўпцах.

10 ліпня адбыліся выбары ў гарадзкую раду, якія далі гэткія рэзультаты: выбрана — 4 беларусаў, 5 жыдоў і 3 палякоў. Перадвыбарчая агітацыя вялася востра. Палякам удалося разьбіць адналіты беларускі фронт, выкарысталі яны частку несьвядомых беларусаў, якіх удалося запалохаць і перацягнуць на свой бок.

СЬВЯРЖЭНСКІ.

## Выбары валаснай рады ў Сьвержані.

11-га чэрвеня г.г. адбыліся выбары ў валасную раду. Выбары далі наступныя вынікі: 5 беларусаў, 5 мясцовых палякоў і адзін жыд.

Вынікі гэтыя выдаюцца дзіўнымі, таму што ў Сьвержанскай воласьці ёсьць беларусаў амаль 100%. Сталася гэтак, дзеля гэткіх прычын: 1) Перш за ўсё, большая частка сялян, дзякуючы несьвядомасьці і неарганізованасьці, удзелу ў выбарах не ўзяла. 2) Выбары адбываліся пад кіраўніцтвам выключна палякоў, вялікіх уласьвікаў, якія розным спосабам стараліся абаламуціць галасаваўшых сялян і перацягнуць іх на свой бок. Палякі рабілі так: Там, дзе тварыліся акружныя сьпіскі, яны стараліся паставіць паляка, як першага кандыдата, а пасьля беларусаў, дзякуючы гэтаму першыя кандыдаты — палякі і прайшлі. У іншых выбарных вакругох беларусы правялі сваіх.

СЬВЕРЖАНСКІ

## Як працуець новы самаўрад?

(Лужкі, Дзісьнен. павету).

Першае паседжаньне адбылося зараз-жа па выбарах, на каторым выбралі войта, намесьніка яго, лаўніка і рэвізыйную камісію. Войтам застаўся выбраны ўласьнік невялікага фальварку п. Зэфэрт, дзесяцьма галасамі проціў двух.

Зэфэрт, як чутна аб ім гутарка, цьвярозага пагляду ў адносінах нацыянальных і чалавек добрай душы. Дык ня дзіва, што на паседжаньні ўсе за яго стаялі гарой. Тое самае можна сьцьвярдзіць аб намесьніку войта Краснадубскім і лаўніку п. Пліску.

Сябры новага самаўраду на паседжаньні ставілі пытаньне, як зрэалізаваць справу, каб на рыначным пляцы была студня, казённая вада і гэтак сама абгаварвалася пытаньне аб валасным пракатным двары земляробскіх прыладаў.

Як павядзе працу самаўрад і надалей няведама, а цяпер, як відаць, узяўся за яе не на жарт.

## Я хацеў-бы...

Я хацеў-бы быць вадою,
Каб ў паветра падымацца,
Невядомаю сьцягою
Вечна ймкнуцца, ня спыняцца.
Дожджам ціхім, клапатліва,
Ажыўляць зямлю сухую
І цячы ў крыніцы жыва,
Смагу, каб гасіць людзкую.
Ў хмарах з ветрамі-б куміўся,
На іх крыльлях бязупынку
Па-над Беларусьсю-б віўся;
Я ня ведаў-бы спачынку.
Відам Бацькаўшчыны мілай
Сваё сэрца пацяшаў-бы,
Ў ручайку магутнай сілай
Песьні волі засьпяваў-бы.
Каб з радзімаю зямлёю,
Як мага, бліжэй зьвязацца,
Я хацеў-бы быць вадою,
Каб усюды разьлівацца.

*Вітэблянін.*

рах лаянскага глядыятарства.

З болем у сэрцы трэба лічыцца з фактамі газэтных недарэчнасьцяў, але што беларускія масы на гэта?

Яны несьвядома маўчаць, альбо, ня маючы магчымасьці зразумець праўды, лучацца да якога-колечы кірунку ды спачуваюць тым альбо іншым нападкам. Гэта цешыць палітыкаў, але гэта найбольш сумны факт, бо іменна гэта адбітак тэй шкадлівасьці, якую прычыняе беларусам недарэчная палеміка.

Зацікавіць народ, гэтак сама як зацікавіць дзяцей, вельмі лёгка, але толькі пытаньне ў тым, ці гэтае пытаньне адпавядае разумнаму мэтоду разумнага ўзгадаваньня і адукаваньня. П'яная бойка на вуліцы таксама цікавіць дзяцей, але ніводзін пэдагог пэўне ня лічыць гэтага лекцыяй узгадаваньня.

Дзейнасьць на ніве народнай асьветы і народнага ўзгадаваньня павінна заўсёды адпавядаць пэдагогічным мэтодам, бо інакш наша дзеяльнасьць будзе мець уласьцівасьці тых узгадавальнікаў, якія не ўзгадоўваюць, але дэмаралізуюць народ.

Дзеячы народныя, як і пэдагогі, павінны ведаць свае межы. Яны могуць біцца, сварыцца і лаяцца там, дзе іх ня бачаць, але ні ў якім разе не павінны рабіць гэтага перад масамі, перад тымі, каго яны ўзгадоўваюць і яшчэ больш не павінны з гэтага рабіць сыстэмы ўзгадаваньня.

Праўда, гэта робіцца несьвядома, але ад гэтага не зьмяншаецца, а павялічваецца згубнасьць гэтага зьявішча. Палітычныя кіраўнікі маюць на мэце апраўдаць і замацаваць свае палітычныя лініі, дзеля чаго, не шкадуючы слоў, як мага імкнуцца зьбіць з цьвёрдага пункту свайго праціўніка, ці конкурэнта. Кожны хоча быць правадыром народу, кожны хоча адзін прадстаўляць народную опінію, а між тым больш альбо менш знаходзяцца прыхільнікі розных напрамкаў. За гэта-ж і йдзе палеміка, каб перавярнуць усіх на свой бок, але хіба-ж палеміка гэтага ня можа зрабіць. Каб аб'яднаць усе кірункі думкі, усе перакананьні ў адну агульную народную думку, трэба не разьбіваць народную думку палітычнымі падзеламі, але трэба аб'яднаць розныя кірункі, калі яны ёсьць. А дзеля гэтага ня трэба шукаць лаянкі на праціўніка, ня трэба рабіць падкопаў і нападаў, але трэба шукаць паразуменьня і згоды, у кожным разе трэба мець прыстойнасьць да праўдзівых перакананьняў. Прыстойнасьць памагае разумець нават тых, хто рашуча разыходзіцца з намі ў паглядах, але калі мы згубім прыстойнасьць,

# Сельска-гаспадарчы аддзел.

## Умацаваньне лятучых пяскоў і выкарыстаньне іх у гаспадарчых мэтах.

Па ўсёй Заходняй Беларусі, пачынаючы ад р. Дзьвіны і далей па паўдзень па р. Нёмне, Шчары, аж да самае р. Прыпеці цягнуцца вялікія пясчаныя абшары.

Вельмі часта гэтыя абшары прадстаўляюць сабою гэтак званыя „лятучыя пяскі“, гэта знач. кварцавы пясок, які складаецца з празрыстых і бясколерных зярнятак. Па хімічным складзе зярняткі гэтыя маюць у сабе г. званы крэмназём — матэрыю, якая ў вадзе не распускаецца і грунт зямлі зусім мала зьмяняе. Дзеля гэтага, пяскі гэтыя не надаюцца пад культуру збожжа альбо травяных расьлін. Але ў той самы час трапляюцца пяскі ў сумесі і некварцавы пясок, які часта разнавіднейшы і складнейшы.

Гэты пясок бывае белага, рожавага, зеленаватага і іншых колераў, ён ня так прасьвечвае і ў склад яго ўходзіць шмат матэрыяў, якія патрэбны дзеля росту расьлін, як: калі, натры, кальцый, магні, жалеза, серка, фосфар і інш. Гэты пясок могуць выкарыстаць толькі некаторыя расьліны — дрывотныя, якія разам з тым і ўмацоўваюць пяскі, дзеля таго, што пяскі гэтыя пры помачы ветру вельмі лёгка пераносяцца з месца на месца, як-бы вольнае мора, дык вось патрэбна зрабіць так, каб выкарыстаць іх і ўмацаваць іх.

Адным з найлепшых спосабаў умацаваньня „лятучых пяскоў“ будзе засадка пясчаных абшараў асобнага віду лазою, якая пабеларуску завецца агульна „ракітаю“, папольску—„віклінаю“, парасейску—„шелюгою“, а батанічны назоў мае палаціне—„Salix.“

Галоўных гатункаў гэтае лазы налічваецца каля 15, а ўсіх падгатункаў каля 750. З іх найбольш вядомымі і прыспасобленымі дзеля гэтае мэты ёсьць:

1) „Salix amygdalina“ — вікліна-ракіта мігдаловая. Гатункі гэтае вярбы маюць дзерава даволі моцнае, даюць вельмі доўгія і тонкія пруцікі-дубцы, якія па акарэньні, г. зн. па ачышчэньні ад кары, маюць выгляд белы, як-бы сьнежны, з шоўкавістым глянсам, і вельмі надаюцца на розныя кашыковыя работы. Мігдаловыя вербы-ракіты вымагаюць грунту больш-менш вільготнага, садзіць іх трэба досыць густа, бо маюць нахіл раскладацца па зямлі. Адну маюць загану, што часамі адмярзаюць у іх вяршочкі маладых пасынкаў.

2. Далей будуць „Salix viminalis“ — вербы-канаплянкі. Вербы гэтага гатунку вельмі маюць буйны рост, даюць многа дубцоў моцных і доўгіх, ня кусьцяцца. Колер кары маюць найчасьцей жоўты, часам зялёны і шэры. Канаплянкі вымагаюць грунту трохі лепшага і на тарпяніках зусім не ўдаюцца. Дзерава дубцоў па акарэньні канаплянкі маюць шэраватае, што лічыцца іхняй заганаю.

3. Ракіта-вярба Касьпійская — „Salix caspica vel acutifolia“ — гэты гатунак вярбы вельмі распаўсюджа-

---

дык для нас ня будуць зразумелымі перакананьні тых, хто згаджаецца з намі агулам, але мае прыватныя разыходжаньні.

Гэтую прыстойнасьць перш-на-перш і трэба было-б унясьці ў беларускую масу, тады кожны кірунак палітычнай альбо грамадзкай думкі адпавядаў-бы пэдагогічным мэтодам.

Сыстэма ўзгадаваньня народу павінна мець у сабе чыстую думку і разумны кірунак. Не павінна быць у ёй нічога, што ня прыносіць карысьці і гэтым робіць шкоду. Мы ведаем, што апроч лаянкі, газэты нашыя займаюцца пераважна палітыкай. У кожным нумары аж нудна чытаць пра тое, што робяць, чаго хочуць і аб чым гутараць Брыяны, Штрэзэманы, Чэмбэрлены, Чычэрыны і іншыя да падзеяў у Кітаі уключна. Пішацца аб гэтым з такім відам, як быццам усё жыцьцё цэлага чалавецтва толькі тым і трымаецца, што на сьвеце ёсьць Чэмбэрлены і Чычэрыны, ды што ў Кітаі ваюе Чай-Кай-Шэк. Хто не адносіцца да ўсяго гэтага крытычна, той запраўды думае, што няма на сьвеце нічога важнейшага, апроч тых гутарак і інтрыгаў, якія вядуць адны проці адных розныя Чэмбэрлены і Чычэрыны — аўтоматы дзяржаўных машын.

Каб хоць адным словам была высьветлена агіднасьць гэтае аўтоматычнае акцыі дыплёматычных машнаў.

Народ вучыцца верыць у чарадзействы сучасных жрацоў палітыкі, як некалі верыў у чарадзействы жрацоў Мамоны і Молоха. А між тым не адны жрацы палітыкі кіруюць жыцьцём: у сьвеце ёсьць людзі сьветлае думкі і разумнага пачуцьця, якія бязупынна твораць новыя і новыя каштоўнасьці культуры, якая ўвзгадоўвае людзей і дае магчымасьць ісьці да лепшае будучыны самастойна бяз ніякае чароўнае дапамогі палітычных жрацоў. Аб тым, якія ёсьць, лепшыя людзі на сьвеце, аб тым, што яны думаюць і гавораць, газэты нават не ўспамінаюць, як быццам гэта зусім непатрэбна.

Але-ж хто разумее пэдагогічныя мэтоды ўзгадаваньня народу, той ведае, якую цану для ўзгадаваньне мае гэтае знаёмства, чым і павінны былі-б заняцца газэты.

Усе гэтыя нястачы беларускае прэсы даўно адчуваліся, але цяпер калі нашыя дзеячы самі палезьлі ў палітычныя аўтоматы і, замест таго, каб узбуджаць сьвядомасьць народу, пачалі вясьці *на ім* палітыку,— нястачы гэтыя адчуваюцца асабліва балюча.

П. Сеўрук.

ны па берагох Касьпійскага мора, ў Туркестане і на Каўказе, вельмі непераборчывы ў грунце, расьце на сыпучых пяскох, бакавых пасынкаў не дае, але расьце высока і ўдаецца там, дзе іншыя гатункі ракіты ня могуць расьці, але ня вельмі лёгка паддаецца акарэньню.

4. Ёсьць яшчэ гатункі віклін - ракітаў „Salix viminalis purpurea“ — (шпагатоўка) ракіта бліскучая, якая добра ўдаецца на ўсякіх грунтох і вельмі распаўсюджана. Далей ідзе—„Salix hippophalifolia“—ракіта размарынавая, якая ўдаецца аднолькава добра, як на мокрых грунтох, так і на сухіх, дае шмат доўгіх дубцоў і надаецца на самыя далікатныя кашыковыя работы. „Salix pentandra“ — альбо вярба лаўровая — адна з тых, якая добра ўдаецца і расьце нават на тарпяніках.

Апрача гэтых ракітаў, ёсьць яшчэ, як мы ўжо казалі, шмат гатункаў вербаў, якія розьняцца ці колерам кары, ці ростам, ці вымаганьнямі ад грунту.

Адзін з гэтакіх гатункаў ракіты, будучы пасаджаны дзе-небудзь на пяску правідловымі радамі, мала таго, што ўмацоўвае лятучыя пяскі, але й дае часта даволі вялікі даход. Маладыя дубцы-пасынкі вікліны ўжо на другі год зрэзваюцца, сартуюцца, ачышчаюцца ад кары, вяжуцца ў пукі, вагаю да 6 пудоў і заўсёды маюць вялікі попыт, як на краёвых, так сама і на заграні̇чных рынках. Ужо на трэці ці чацьвёрты год з віклінавае плянтацыі можна сабраць да 1000 пудоў сырых дубцоў, якія, пасьля сартоўкі і ачысткі іх ад кары, даюць 300—400 пуд. тавару — белых або жаўтаватых пруцікаў даўжынёю да 3 мэтраў. Адзін гэтакі пучок ракітных пруцікаў, вагаю 6 пуд. (100 kilo) прадаецца на рынках па 50—100 злотых, і гэткім чынам плянтацыя ракіты можа даць з кожнага гэктару агульны даход ў 700 — 1500 злотых.

Вельмі многа заўсёды патрабуюць пруцікаў ракіты за граніцу, але яна мае вялікі попыт і на мясцовых рынках, бо з яе робяць усялякіх гатункаў кошыкі, плятуць мэблі, падстаўкі пад вазоны, падарожныя рэчы, кошыкі для брычак, дзіцячыя каляскі і г. д.

Культура альбо гадоўля ракіты-шэлюгі не прадстаўляе сабою вялікае труднасьці. З мясцовасьці, дзе яе многа культывуецца, з Малапольшчы, Пазнані (Нямеччыны, Туркестану—Расеі, або Францыі і Бэльгіі), выпісваецца тысяча - другая чаранкоў - дубцоў аднагодкаў і садзіцца на адпаведным месцы. У адным цэнтнары (100 кгр.) вікліны, калі выпісваць або купляць проста з плянтацыі, будзе ў сярэднім каля 3000 чаранкоў-саджанцоў.

І трэба разумець, што з 200—250 дубцоў ракіты сярэдняй даўжыні можна адтрымаць каля тысячы саджанцоў, бо дубцы гэткія на ўвесь свой рост ня садзяцца, калі заводзяць плянтацыю, а рэжуцца на месцы пасадкі на кавалкі па 20—30 см. (8—12 вяршкоў), гэта знач. залежна ад таго, ці садзяць у вільготны грунт, ці сухі, бо ў апошні трэба садзіць даўжэйшыя кавалкі дубцоў. На адзін гэктар плянтацыі садзіцца ад восемнаццаці да дваццацёх пяцёх тысяч пруцікаў-кавалкаў, у рады, якія аддалены адзін ад аднаго ў сярэднім на 75 см. і на 30—40 см. штука ад штукі.

Пад управу або культуру ракіты надаюцца ўсякага роду няўжыткі: міжырэчныя астраўкі, надбярэжжы рэк, кіслыя і мокрыя землі, і найбольшыя ў нас абшары пяскоў. Ракіты добра растуць на ўсялякіх грунтох, але вымагаюць толькі сонечнага сьвятла, каб ня быць у цені і не ўдаюцца на сьвежавыкарчаваных з-пад лесу месцах.

Мясцовасьць, якая вызначана пад плянтацыю ракіты, пажадана, каб была загадзя выгнаена кампостам, пасевам лубіну, або паліта жыжкаю—сокам гною. Поле павінна быць добра і досыць глыбока заараным, або перакопаным, а часамі трэба і прыкочваць (вальцаваць).

Садзіцца ракіта пад шнур радамі, якія кіруюцца найбольш з поўначы на поўдзень.

Садзяць ракіту ўвосень, але лепш вясною, бо зімою часта маразы выпіраюць саджанцы з зямлі і адмярзаюць сьвежазрэзаныя вярхі пруцікаў. Дзеля гэтага пажадана садзіць ракіту вясною.

Пасаджаная вясною ракіта вельмі часта ўжо ў тую самую восень дае збор ураджаю дубцоў, якія вырэзваюцца позьняю восеньню — ў лістападзе або ў сьнежні, калі няма вялікіх маразоў, і пасьля з кожным годам збор дубцоў будзе ўсё больш.

Сабраныя ў паказаную пору дубцы ідуць або на кашыковыя работы, або выкарыстоўваюцца, як саджанцы, якія трымаюць праз усю зіму ў пучкох дзе-нібудзь у пограбе, абы не на сонцы, ветры і ня ў сухім месцы; марозу яны не баяцца. Раньняю вясною дубцы, часта даўжыні $1^1/_2$—3 мэтраў, рэжуцца на кавалачкі па 20—30 см. і садзяцца ў зямлю. Трэба заўважыць, што саджанцы, калі рэжуцца на кавалачкі, то ня так, як галінкі яблык або груш, пад вочкам (вочкаю), але над вочкам.

Пасадзіўшы ці паўтыкаўшы кавалкі ракіты ў зямлю ў гатовыя дзірачкі, робленыя, пры помачы вострага калочка, так, каб вочкі служылі ўгару, зямлю добра і моцна абціскаюць навокала саджанца. Памагаюць яшчэ размнажэньню ракіты і гэткім чынам, што ў жніўні галінкі ракіты адгібаюць да зямлі, ўтыкаюць у зямлю, абсыпаюць у паўмэтра ці менш зямлёю, атоптваюць, і галінка на вясну адрэзваецца ад куста, бо ўжо прынялася і будзе расьці сваім кустом.

Як правіла, пад гадоўлю ракіты ня трэба даваць шмат гною, або штучных гнаёў, бо тагды ракіта будзе вельмі крохкая і ломкая і часта расьце ня проста, а разьлягаецца па зямлі. Абкорваньне або ачышчаньне пруцікаў ракіты ад кары павінна адбывацца лепей на падворку на сонцы, бо тагды пруцікі маюць вельмі добры выгляд, калі-ж трапляюцца сырыя пад дождж, то пруцікі часта чарнеюць і маюць плямы, і ў гэту дажджлівую пару лепш работу спаўняць пад паветкаю.

Ракітная кара таксама мае вялікую вартасьць:

яна мае шмат саліцылавага квасу, які з кары і дабываюць; апрача таго, яна ідзэ ў гарбарні пры вырабе аўчын, скурак, і досыць часта за 100 кгр. сухое ракітнае кары плацяць 5—8 злотых.

Як гэта можна зразумець з вышэйсказанага і няўжыткі, сыпучыя пяскі, пры добрым і разумным гаспадараваньні могуць даваць вельмі паважныя зыскі гаспадару, дый самы грунт пяскоў умацоўваецца, зямля ад апаўшых лістоў вярбы ўгніваецца і пачынае расьці трава.

*Я. Х.*

## Гадоўля індыкоў.

Гадоўля гэтага роду птушак наагул мала распаўсюджана, праўдападобна таму, што істнуе забабон, нібыто індыкі асабліва цяжка гадаваць і што страты ад сьмяротнасьці малых вельмі вялікія, каб гадоўля гэта аплацілася. У запраўднасьці гадоўля індыкоў не такая ўжо й трудная, аднакжа трэба, апрача дбайнае апекі, якую мы павінны даць кожнаму маладому арганізму, пазнаць і даць варункі, якіх гадоўля гэтых птушак вымагае.

Індыкі патрабуюць шмат паветра, праз гэта для іх зьяўляюцца неадпаведнымі памяшчэньні душныя, як гэтак сама і праз меру цёплыя; рацыянальная гадоўля іх палягае на гартаваньні, а не на выдалікачваньні. Індыкі параўнальна нядаўна прысвоены, любяць жыць якнайбольш на волі — і гэта ад самых першых дзён свайго жыцьця. У гародчыках блага гадуюцца; найбольш адпавядае ім гадоўля на выгане, дзе і павінны быць цэлы дзень. Аднак-жа трэба помніць, што для моладзі вільгаць — рэч забойчая, дык і трэба яе сьцерагчы ад дажджу і нават ад халоднае расы, як і ад сільных вятроў ды вельмі гарачых праменьняў сонца. Абшар павінен быць сухі.

Мэтаю гадоўлі індыкоў ёсьць адтрыманьне штук якнайбольшых і цяжкіх на вагу; шлях, які вядзе да гэтае мэты — выбар адпаведнае расы, а таксама радыянальны дагляд і кармленьне.

З расаў, якія істнуюць, індыкі „Мамуты“, званыя таксама і „бранзовымі амэрыканскімі“, зьяўляюцца найбольшымі, вага паасобных штук даходзіць да 6—7 кгр., — а індуры нярэдка даходзяць да 15 кілёгр.; аднак-жа мяса іхняе менш смачнае, як мяса індычак.

Мамуты вельмі лёгка выносяць нашыя кліматычныя варункі, мала баяцца халадоў і маразоў.

Каб мець магчымасьць хутка пусьціць на паветра выведзеныя індычкі, дык ня вельмі трэба сьпяшацца з выводжваньнямі індычат; найлепшы час для іх выседжваньня — красавік і травень. Каб рэзультат выседжваньня быў добры, дык трэба браць яйцы ад здаровых, моцных штук, добра кормленых, не сваякоў па крыві і гадованых на волі,—толькі тады адтрымаем дужы прыплод, які будзе добра гадавацца.

Прызначаныя на развод яйцы найлепш падлажыць пад індычку, яна дасканальная наседка, клапатліва водзіць свае індычаты і, пры патрэбе, патрапіць энэргічна бараніць іх. Звычайна падкладаецца каля 15 штук яец. Выседжваньне цягнецца каля 30-х дзён, часамі пачынаецца на 1 ці 2 дні раней, таксама бывае, што й крыху пазьніцца.

Індычка інады гэтак старанліва сядзіць на яйцах, што нават ня хоча сходзіць з іх, каб пад'есьці, дык і трэба абавязкова помніць аб ёй і раз на дзень на 15 мінут скідаць яе з гнязда, каб мела час пад'есьці, выкаршкацца ў пяску і выпаражніцца. Карміць у гэты час трэба ячменем альбо аўсом. Піць даём ваду.

Падчас выхаду ня трэба памагаць птушанятам выбірацца з яйца; няцерпячы і заглядаючы заўсёды ў яйкі, — студзім іх, а птушаня, якое само ня мае сілы выбрацца з каралюшчы, і жыць далей сілы мець ня будзе.

Індычаты, вывяўшыся, слабенькія, аднак-жа датарноўваньне стараньняў „узмацняльных“, як мачэньне ножак у сьпірце, кармленьне іх перцам— бязмэтная рэч і шкадлівая, бо, замест мучаньня індычат, трэба іх тады пакінуць у поўным спакоі. Пасьля таго, як прайдзе 24—36 гадзін, калі высахнуць, выгрэюцца, стравяць уцягнены перад выклёўваньнем жаўток — набяруцца сілы, толькі тады трэба заняцца імі і першы раз накарміць,

Як першы корм, даём яечны сырчык (цэлае яйцо разьбіваем у шклянцы малака і падаграваем на агні аж пакуль скіпіцца, пасьля добра выціскаем праз ганучку); сырчык гэты трэба вымяшаць з дробна пакрышанай зяленінай, а таксама з пакрышанаю лупінаю яйца. Побач з сырчыкам трэба ім даваць крупы, вараныя на малаку.

Крыху старэйшым даём добра адціснены тварог, замешаны аўсянаю мукою, або пшанічнымі вотрубямі, вараныя крупы, а таксама і шмат зяленіны (крываўнік, бабка, канюшына).

Асабліва ў першы пэрыяд гадоўлі, гэта знач. да часу, пакуль індычаты выкаралеюць, мусім іх вельмі добра карміць, бо толькі тады, калі будуць дужымі і здаровымі, ня будзем мець стратаў у крытычны для іх час караленьня, ў які пры поўным аслабленьні арганізму істнуе большы, як звычайна, нахіл да хваробаў, дык і даём індычатам у пачатку гадоўлі, апрача вышэйпералічаных кормаў, мясныя абрэзкі, дробна стоўчаныя косьці, зьбіраем для іх хрушчы, дажджавыя чэрві, мурашчыны яйкі; вельмі добрым дадаткам да корму будзе юшка або парашок з юшкі, касьцей ці мяса.

Карміць трэба вельмі рэгулярна, спачатку 5 разоў, а пасьля 4 разы ў дзень.

Піць даём ваду з дадаткам серна-кіслае солі жалеза.

Для лепшай страўнасьці даём у карытцы тоўчаную цэглу, груз, а таксама кавалкі дзеравянога вугля. Пасьля выкараленьня кормім індычаты раніцай сырою гароднінай, якую яны ахвотна ядуць; асабліва любяць моркву, адну толькі бульбу трэба даваць варанаю; як асыпку трэба даваць аўсяную муку або пшанічныя вотрубі. Увечары—збожжа. А ў працягу дня іх трэба выганяць на пожню, або выган, дзе, колькі сабе хочуць, могуць назьбіраць зельля, чарвей і аваднёў.

## Зборка хлеба на палёх.

### (Жніва).

Наступіла лета. Прыйшоў час, калі мы знаходзімся напярэдадні жніва. Шмат досьледу, прызвычаеньня і ўменьня вымагае ад гаспадара зборка з поля хлеба. Досыцьператрымаць збожжа на карані

дзён два-тры і можна страціць палавіну ўраджаю, ці то шляхам высыпаньня, ці то прыпаленьня зерня. Калі падходзіць пара жніва, — кожны гаспадар мусіць аглядзець сваё поле, ці пасьпела ўжо зярнё, з якога боку пачынаць зборку хлеба і г. д. Кожнаму ведама, што бельшасьць нашых жніваў знаходзіцца не на роўным месцы, пападаюцца на іх то касагоры, то даліны, з аднаго боку поле вышэйшае, з другога зусім нізкае і г.д. Вось-жа гаспадару трэба памятаць, што на вышэйшых мясцох збожжа заўсёды пасьпявае раней, як на ніжэйшых. Таму і зборку яго трэба пачынаць з высокіх мясцоў.

Перш за ўсё гаспадар павінен устанавіць сьпеласьць зярня. Спроба сьпеласьці зярня мае вялікае значэньне, бо збор ня ў свой час затрачвае 50 процантаў ураджаю. Трэба ведаць, што ў аўса і проса сьпеласьць пачынаецца з вярхоў каласкоў (мяцёлак), а жыта, пшаніцы, ячменю—зьнізу калосься; апрача таго, неабходна ведаць, што ўва ўсіх нашых хлябох ёсьць тры сьпеласьці:

Першая — тады, калі ўзяць з каласка зярня паміж ногцяў, раздушыць яго і з яго пацячэ малако.

Другая, калі, як ногцем разрэжам зярня, дык малачко ўжо не пацячэ, але тое зярня само па сабе будзе мягкае.

І трэцяя — поўная сьпеласьць, калі зярнё ўжо цьвёрдае настолькі, што ў зубох будзе хрумсьцець.

Найлепшая і найкарысьнейшая зборка можа быць пры другой сьпеласьці, якое гаспадар не павінен упусьціць, бо пры зборы ўраджаю пры гэтай сьпеласьці дужа малы процант збожжа гаспадар страціць.

Зборка пры першай сьпеласьці—некарысная, таму што зярнё будзе настолькі малое, што ўраджай зьменшыцца да палавіны.

Што датычыць трэцяе сьпеласьці, дык, хто яе чакае, той траціць поўныя $^3/_4$ ўраджаю, бо трэба толькі дакрануцца сярпом ці касою да сьцяблінЫ, і каласок зараз-жа высыплецца.

Вось-жа, калі хлеб на ральлі мае другую, або як яе яшчэ называюць, васковую сьпеласьць, тады трэба прыступіць да зборкі яго, пачынаючы з высокіх месцаў, дзе хутчэй ён пасьпявае, а да таго часу пасьпее і той, што на ніжэйшых мясцох, і што наагул дасьпявае трохі пазьней.

Калі збожжа палягло ад ветру ці дажджу, або ад іншых прычынаў пераблутанае, дык яго трэба зьбіраць сярпом. Калі-ж збожжа на полі ня вельмі высокае, ды рэдкае і пахіленае ў які-нібудзь бок, то яго зручней касіць на грабкі. Касіць збожжа можна на адкос (адвал) і прыкос (прывал). У апошнім выпадку збожжа косіцца тады, калі яно перастаялае, або сухое і высыпаецца; скошанае ў прыкос збожжа кладзецца ў сьценку, якая знаходзіцца з левага боку касца. Трэба зараз-жа за касцом вязаць. Звычайна зборка хлеба касою значна таньнейшая, як зборка сярпом, але пры зборцы сярпом як я ўжо ад'значыў, ня будзе ніякіх стратаў у збожжы, пры чым салома будзе добрая на пакрыцьце стрэхаў і г.д. Разумеецца, што сярпом зьбіраецца збожжа прыгожага росту. Але наагул для жніва патрэбны як серп, так і каса.

Што датычыць зборкі перастаялага збожжа, дык яго можна зьбіраць толькі раніцамі ды вечарамі, а то нават і ўночы, пры месяцы.

Калі паміж збожжам трапляецца якое-нібудзь зельле, дык, скасіўшы, ці зжаўшы, яго няварта зараз-жа вязаць, а даць яму ў пакосах прасохнуць. Вязаць снапы сярэдняй велічыні, каб кожны з іх даходзіў да 30 фун.; зьвязаўшы сноп, трэба яго паставіць каласкамі ўгару.

(„Наше Життя"). *І. Люшук.*

## Дрэнны звычай па вёсках.

Няпрыемна глядзець калі ў вёсцы, падчас жніва жыта, няма належнага парадку, як гэта водзіцца з снапамі на хутарскіх гаспадарках. Жыта ў земляроба галоўны жыцьцёвы прадукт. Лічыцца гаспадар багатым, калі мае́ць хлеба да новага збору ўраджаю. Дык калі Маці-Прырода ўзбагаціла працоўную ніву земляроба жнівам, хай ён пакажаць сваю здольнасьць, каб правілова выкарыстаць ураджайнасьць наколькі гэта можна. Галоўная рэч у тым, каб ня жаць жыта зеленкаватае і не складваць нявысушаныя снапы ў кладню. Нажаль, ёсьць вёскі, каторыя гэта робяць, бо гэтак завялося здаўна. Найболей гэткі звычай вядзецца ў большых вёсках. Калі, прыкладам, сусед Янка, па дурнаце сваёй, ці мо' па неабходнасьці, на хлеб пачаў жыта жаць, дык ужо, хоць жыта і ня зусім сьпелае, пачаў гэта рабіць і Сымонка, на іх гледзячы, і ўся вёска. Гэта авечая пасьпешнасьць дужа даець сябе адчуваць на дабрыні збожжа, бо хлеб ад зжатага зялёнага жыта шмат цямнейшы і не такі смачны. Недасьпеўшае зерне ўсохнецца і нават можа ўсохнуцца да паловы звычайнай таўшчыні зярняці. Добра выстаенае на ніве, жыта пры жніве хоць і высыплецца часткаю, але гэта частка, ў параўнаньні да страты ад зложанага жыта, ня зусім сьпелага, будзе нязначная, бо звычайная капа сьпелага жыта дае тры пуды добрага збожжа, а капа жыта, ня зусім сьпелага, можа даць умалоту ня болей, як два з паловай пуды дый у дадатак нядобрага збожжа. Розьніца гэта ў умалоце і ў гатунку жыта даказвае, што жаць жыта трэба не тады, як нехта ўжо пачаў жаць, а толькі тады, калі жыта зусім сьпелае і ня трэба баяцца, што крыху высыплецца.

Само сабой разумеецца, што дужа занядбаць жніва ня можна, каб часам жыта зусім ня высыпалася. Ёсьць гатунак жыта, як у нас яго называюць „пазнанскае", дык гэтае жыта высыпацца, хоць і перасьпеець, негатова, нажаль гэтае жыта ў нас па вёсках дрэнна расьце. Гэты гатунак жыта любіць добрае гнаеньне, вырабку і акопку зямлі, а найлепей расьце па дрэнажы, каторы магчыма зрабіць толькі тады, калі-б вёска перайшла на хутары.

Як-жа робіцца са снапамі? Яшчэ ня скончана

жніва, а ўжо сусед Янка павёз з поля цэлы воз снапоў (бо яго шнур першы ад выгану, часам, каб ня зблудзіла якая жывёла ў яго снапы), другі шнур ад выгану Сымонкаў; зьбіраець і гэты свае снапы і гэтак усе да апошняга, не зварочваючы ўвагі на тое, што снапы яшчэ ня высахлі, зьбіраюць са сваіх шнуроў адзін за адным, каб не астацца з-заду бо, выпушчаная на пашу, жывёла пазьядаець снапы.

Якая-ж карысьць для селяніна ад гэткага парадку, будзе відаць усякаму, калі каторы ўжо пачне малаціць жыта, зложанае ў кладню; не у пару зжатыя і нявысушныя, снапы жыта напалову струхлеюць. Зярнё будзе тухлае. Дык які будзе хлеб ад гэткага жыта,— казаць ня трэба.

Каб ухіліцца ад гэткай пасьпешнасьці і калатні ў гэтай вялікай земляробскай справе, трэба пераходзіць на хутары, дзе ня будзе каму падганяць і ўводзіць у авечую пасьпешнасьць гаспадара каторы, сам зразумее, як найлепш скарыстаць з усялякай земляробскай вытворчасьці.

*Янка Тарыкоў.*

---

## Гаспадарчыя парады.

### Як павялічыць удой каровы.

Якая праца,такая заплата. За пашу і дагляд карова плаціць малаком. Калі карова дае малую колькасьць малака, дык яна не заплаціць за працу каля яе. Большасьць нашых кароў не аплачваецца, бо яны даюць ледзь 1000 літраў малака ў год, тады як гаспадару на Захадзе карова рэдка калі дае менш як 3000 літраў, а трапляюцца каровы, што даюць 7000 літраў малака ў год. Рэч зразумелая, што з такое каровы вялілі даход і ня шкода даць ёй добрую пашу.

Прынятым ёсьць пераканаVньне, што карова прыме ротам, тое аддасьць цыцкамі. Дзеля гэтага, ад каровы вымагаецца шмат і клустага малака; трэба даваць ёй добрую пашу, як: макуха канюшына, салодкае сена, адначасна пашу, што гоніць малако, як буракі, бручка, бульба, і зялёнае пашы бяз меры. Трэба даваць пажыўное пашы, прытрымліваца звычаю, большай карове — больш, меншай—менш.

Кожны перакорм, або недакорм шкодзіць быдлу, яно траціць малако, а праз гэта траціць і гаспадар. Праз належнае кармленьне можна дасягнуць большых даходаў, бо нават і найлепшая карова, дрэнна кормленая і дагляданая, ў гаспадарцы змарнуецца.

Каб мець каровы малочныя, трэба дабіраць цялят дзеля гадаваньня ад добрых малочных кароў і расавых бугаёў.

Што ліхое і мала вартасьцёвае, трэба з хлява выкінуць, бо мы забедныя, каб гадаваць дармаедаў.

*Падаў П.*

### Сыроп для пчол.

Часта трапляецца пчаляром, што ў пчол не хапае мёду да вясны, гэта знача да таго часу, калі пчолка ўжо ў полі можа знайсьці сабе корм. І тады добры гаспадар, убачыўшы, што ў вульлі няма чаго есьці пчолкам, прыгатаўляе ім ежу з цукру, але цяпер цукер шмат каштуе, а ня кожны пчаляр мае грошы на гэты расход.

Вось-жа аб гэтым і будзем гаварыць, як памагчы пчаляру, каб яго пчолка здаровенькая вылецела з вульля тады, калі трэба, каб праз брак ежы ня згінула ад раньняга выхаду.

Вось, датарноўваючыся да такога жыцьця, некаторыя пчаляры прабавалі ўжо самі варыць сыроп з цукровых буракоў.

Прыгатаўляюцца буракі гэтак: трэба іх чысьценька вымыць, каб ня было бруду, парэзаць тоненькімі кавалачкамі, альбо на звычайнай тарцы пацёрці, і сок выдушыць якім-вібудзь прэсам, а можна і так, як выдушваюць сыраватку з кіслага малака. Пасьля гэтага, сок працадзіць і добра пераварыць у эмаліраваным судзьдзі; судзьдзё мусіць быць вымыта чысьценька перад тым, як варыць ў ём сок, каб сок заправуды быў чысты. З пераваранага соку выйдзе такі сыроп, якім можна падкарміць пчолы, бо ў ём ёсьць той самы цукер, што цяпер так дарагі, а буракі ў кожнага гаспадара ёсьць свае. З аднаго пуда цукравых буракоў, калі добра іх выцісн{у}ць выходзіць 10 — 15 фунтаў сыропу. Гэткім спосабам, кармілі пчолы ў 17 годзе, калі адчуваўся брак цукру, а адзін вучоны пчаляр вельмі радзіў гэткім сыропам карміць пчолы.

---

Пытаньне: Маю каня, які з некаторага часу аддае мачу вельмі часта і пакрысе. Ці гэта прывычка, ці хвароба, і як яе лячыць?

Адказ: Апісаныя праявы звычайна ідуць побач з катарам мачавога пузыра, які найчасьцей паўстае ад прастуды, або ад благога і папсованага корму. Гэткага каня трэба вельмі ашчаджаць, ня браць яго ў цяжкую работу і ён павінен мець заўсёды акрыты дзяругой хрыбет, ніколі не паіць яго халоднаю вадою проста з калодзежа, а крыху пагрэць гатую ваду на сонцы. У нутро даваць яму карльсбадзкае солі, 3 разы ў дзень па аднэй лжцы з пшанічнымі вотрубямі; глядзець, каб сена або канюшына было добрае, непапсованае. Можна таксама даваць каню сьвежа скошаную траву.

### Што трэба рабіць, каб збожжа было пазбаўлена розных жучкоў і зернавое молі?

Часта бывае, што ў вымачаным жыце, пшаніцы, просе і іншых збожжах, ссыпаных на перахованьне, знаходзяцца розныя жучкі, моль і іншыя кузулькі. Жучкі гэныя вельмі шкодныя, бо яны псуюць збожжа, а асабліва, для засеву такое збожжа благое, бо часта ня ўсходзіць.

Каб іх пазбыцца, трэба ўзяць хмелю, добра падсушанага і пацёртага, і яго параскідаць па збожжы.

Жучкі ня любяць паху хмелю і пагінуць, або паўцякаюць. Хмель сам для збожжа не пашкодзіць.

*Я. Х.*

## Куток для мацярок.

ДОКТАР РАВІЧ.

### Малочныя зубы.

Зубкі пачынаюць вырэзвацца ў дзіцяці звычайна ў канцы першага паўгодзьдзя жыцьця, або на 6-м месяцы. Вырэзваньне зубоў адбываецца ў пэўным устаноўленым парадку; яны зьяўляюцца парамі—найраней звычайна два сярэднія зубы ніжняе сківіцы або ўнутраныя секачы — называем іх гэтак ад шырокага ляза верхняга краю, які служыць дзеля раздрабленьня (сячэньня) заўсёдных страваў. Пасьля ніжніх унутраных секачоў выходзяць звычайна верхнія секачы — раней два сярэднія, а пасьля два бакавыя, і ўжо пасьля гэтага—бакавыя секачы ніжняе сківіцы. Секачоў маем, значыцца, ў дзіцяці па 4 ў верхняй і ў ніжняй сківіцы — разам 8. Пэрыяд часу паміж вырэзваньнем названых пар зубоў раўняецца ў сярэднім 2-м месяцам,—а паасобныя зубы кожнае пары могуць зьяўляцца альбо разам, альбо ў водступе некалькіх дзён.

Пасьля секачоў выходзяць карэнныя зубы — перш за ўсё ўгары, па адным з правага і з левага боку, затым два першыя карэнныя зубы ў ніжняй сківіцы.

Карэнных зубоў, так сама, як і секачоў, маем у дзіцяці 8, але другія карэнныя зубы вырэзваюцца не баспасрэдна пасьля першых карэнных, а толькі ў канцы — раней два верхнія, пасьля два ніжнія. Карэнныя зубы маюць плоскую, круглаватую, крыху ўглубленую паверхню і служаць дзеля расьціраньня страваў.

Пасьля першых карэнных зубоў, вырэзваюцца гэтак званыя клыкі; яны ляжаць паміж бакавымі секачамі і карэннымі і маюць востры верх; у дзіцяці (і ў дарослага) гэтае завостраньне клыкоў ня так выдатнае, як у жывёлы, асабліва мясажорнае, якая клыкамі разрывае страву. Клыкоў у чалавека і ў дзіцяці ёсьць па адным з кожнага боку ўгары і ўнізе—разам 4. Гэткім чынам усе зубы ў дзіцяці складаюцца з 20 зубоў, альбо на 12 зубоў менш, як у дарослага, які мае 32 зубы. Дзіцячыя зубы называем малочнымі, бо яны не зьяўляюцца трывалымі і выпадаюць ужо на 6 годзе жыцьця—звычайна ў тым самым парадку, ў якім яны пачалі вырэзвацца. Пэрыяд зьяўленьня малочных зубоў называем зубкаваньнем; — пэрыяд гэты, як сказана вышэй, пачынаецца на 6 або 7 месяцы жыцьця і цягнецца да канца 2-га году. Пэрыяд, калі пачынаюць вырэзвацца зубы, для дзіцяці даволі цяжкі — не па прычыне зубоў, але перш за ўсё дзеля таго, што ў гэты час матчынага корму пачынае быць для дзіцяці не даволі—яно ўжо часьцёва патрабуе мешанае стравы (кашы, гароднiны), а дакармляньне не заўсёды адбываецца правільна і часта выклікае паважныя забурэньці. Даўней гэтыя забурэньні ставілі ў залежнасьць ад таго, што вырэзваліся зубы. Сягоньня ведаем напэўна, што **вырэзваньне зубоў ня мае ніякага ўплыву на паўставаньне хваробаў**. Калі дзіця мае гарачку або кашляе, ці ванітуе, дык гэта залежыць ад хваробы, а не ад зубкоў, якія растуць у дзіцяці ў глыбіні дзёснаў ад самага нараджэньня, аднак-жа не выклікаючы самі сабою ніякіх забурэньняў, як зусім нармальны працэс, важны для ладу і згодны з агульнымі правамі разьвіцьця і росту.

У зьвязку з вырэзваньнем зубоў могуць паўставаць толькі запаленьні дзёснаў, паколькі дзіця граззнымі пальчыкамі ўцірае ў іх сабе мікробы. Нашыя мацяркі, аднак-жа, вельмі часта прыпісваюць зубкаваньню розныя хваробы і — што важней — думаюць, што „хворага зубамі“ дзіцяці ня трэба лячыць, бо хвароба прайдзе сама, як толькі зубок пакажацца. Гэткі пагляд прыносіць шкоду дзіцяці, таму што гэтак не адна хвароба бывае запушчанаю і можа пацягнуць за сабою нават і утрату жыцьця дзіцяці. Азначэньне прычыны хваробы трэба пакінуць лекару, —а калі дзіця захварэе, дык трэба яго лячыць загадзя, ня думаючы зусім аб тым, ці гэта зубы выклікалі хваробу. А да сьмешных забабонаў належыць завязваньне дзіцяці стужачак і розных рэчаў, якія маюць палегчыць вырэзваньне зубкоў—шкада грошай на купляньне гэтых рэчаў, разьлічаных толькі на людзкую цемнату.

(„Kultura“).

## Палітычныя навіны.

### АЎСТРЫЯ.

Рэвалюцыя ў Вене падыйшла да канца. Соц.-дэмакраты прызываюць рабочых да парадку. Забастоўкі ліквідуюцца. Саюз аўстрыяцкіх сялян заявіў ураду, што сяляне памогуць ураду утрымаць у дзяржаве парадак надалей.

Як пачынае выясьняцца, галоўным фактарам вялікіх беспарадкаў зьяўляюцца камуністыя, высланцы Масквы.

Лік забітых дасягае 100 чалавек.

21-га VII адбыліся хаўтуры. 54—чалавекі будуць пахованы ў адной брацкай магіле. Соц.-дэм., жадаючы ўхіліцца ад беспарадкаў у часе хаўтуроў, рашылі хаваць забітых на цэнтральным могільніку. Тырольскі Сялянскі Саюз трэбуе пераносу ўраду ца якога-колечы другога места з „чырвонае“ Вены.

### С. С. С. Р.

21 ліпня ў Фінскай затоцы пачаліся вялікія манэўры сав. флёту пры удзеле Ворошылова, Муклевіча і Віктарава.

Адбылася дэмонстрацыя марскога бою.

— У Харкаве 19-га ліпня адбылася інсцэнізацыя паветранага бою, прымала удзел 10 самалётаў.

### КІТАЙ.

У Шанхаі, па распараджэньню нанкінскага ураду, быў зроблены вобыск у аддзеле савецкага банку; адтрымана шмат цэнных інформацыяў.

—Ханкоўскі ўрад, выгнаўшы камуністых, прэтэндуе на адзіны кітайскі ўрад. Чай-Кай-Шы пачынае наступаць на Ханькоу.

Каля Кіўкіангу гэтымі днямі чакаюць вялікіх баёў, якім прыдаюць пэўнае значэньне. Чай-Кай-Шы заявіў, што будзе вясьці вайну да поўнае перамогі.

### РУМЫНІЯ.

Памёр кароль Фэрдынанд. Наступнік трону малалетні Міхал каранаваўся на каралеўства. Пакуль ён вырасьце, дык кіраваць справамі ў Румыніі будзе рэгэнцыйная рада.

## АБ УСІМ ПАТРОХУ.

### Найбольшыя гарады ў сьвеце.

Перад вайною было 20 местаў у сьвеце, што мелі больш як мільён жыхароў, цяпер гэткіх местаў ёсьць 40. Ў працягу апошніх 15 гадоў ўзрасла лічба жыхароў пераважна ў вялікіх местах амэрыканскіх і азіяцкіх. Перад вайною мільённых местаў у Эўропе было 10, а па 5 у Амэрыцы і ў Азіі. Сягоньня на 40 гэткіх местаў у сьвеце 15 ляжыць у Эўропе, 13 у Амэрыцы, 11 у Азіі і 1 ў Аўстраліі. Перад вайною найбольшым местам у сьвеце быў Лёндан, сягоньня ёсьць ім Нью-Ёрк. Паводле найнавейшых аблічэньняў, Нью-Ёрк мае 9,350,000 жыхароў, Лёндан 7,660,000, Парыж 4,600,000, Бэрлін 4,126,000, Вена 1,900,000, Ленінград (Петраград) 1,600,000.

Вена перад вайною стаяла на 7 месцы, цяпер упала на 12-е месца.

У Польшчы больш, чым мільён жыхароў мае Варшава.

### Куды падзяюцца старыя банкноты ў Амэрыцы.

Старыя, падзёртыя і памятыя грошы вяртаюцца з банкаў да дэпартамэнту скарбу ў Вашынгтоне.

Штодня прыходзіць чатыры тонны (244 пуды) гэткіх папсованых грошай. Замест падзёртых, дэпартамэнт выпушчае новыя грошы, а тыя старыя і брудныя рвуць і мяшаюць на масу; масу прадаюць на выраб паперы горшага гатунку. Знаўцы выраховалі, што каб тую масу з папсованых грашавых банкнотаў ачысьціць ад бруду, тады можна было-б яе ўжыць на выраб добрае паперы і гэткім спосабам можна ашчадзіць 50,000 даляраў штогодна. Амэрыканская практычнасьць, як бачым, скрозь спасьцерагаецца.

## АБВЕСТКІ.

### Ад Галоўнае Управы Т-ва Беларускае Школы.

Гр. гр. вучыцялі Беларускіх гімназіяў паведамляюцца, што заняткі на курсах у Радашкавічах для здабыцьця вучыцельскіх кваліфікацыяў пачнуцца у аўторак 2 жніўня а 9 гадз. раніцы.

Просьба да ўсіх зьявіцца на курсы без спазьненьня.

**Прэзыдыум Галоўнай Управы.**

25. VII 1927 г.

## Згублена

пасьведчаньне аб рэестрацыі, выданае Р. К. U. ў Аўгустове на імя **Адольфа Зянюка.**

## РАДАШКАЎСКАЯ

8-х клясовая коэдукацыйная Беларуская Гімназія гуманістычнага тыпу падаець да ведама, што заявы аб прыйме ўва ўсе клясы можна складаць у канцэлярыі Гімназіі штодня, апрача дзён сьвяточных, ад 12-ай да 14-ай гадзіны або прысылаць па пошце на гэткі адрэс:

**m. RADOSZKOWICZE, pow. Mołodeczański, PLAC KOŚCIELNY 2.**

Да заявы трэба далучыць мэтрыку аб нараджэньні і, калі ёсьць, дакумэнт аб папярэдняй адукацыі.

Уступныя экзамены ўвосень адбудуцца ў дні ад 29 жніўня да 10 верасьня г. г.

Апошняя станцыя па чыгунцы — Аляхновічы (Olechnowicze), ад Радашкавічаў 8 кілёмэтраў.

**Дырэкцыя.**

## Навагрудзкая Беларуская 8 кл. Гімназія

### прыродаматэматычнага тыпу

(I II і III кл. адтрымалі правы дзяржаўных гімназіяў)

даводзіць да ведама грамазянства, што прыймовыя экзамены вучняў на 1927—1928 школьны год ува ўсе клясы Гімназіі адбудуцца ў наступным часе:

**восеньню: ад 1-га да 10-га верасьня.**

Заявы аб дапушчэньні дзяцей да экзаменаў падаюць іх бацькі або апякуны.

Да заявы трэба далучыць: 1) Мэтрыку аб нараджэньні. 2) Пасьведчаньне доктара аб прышчэпе воспы. 3) Дакумэнты аб папярэдняй адукацыі, калі паступаючы вучыўся ў якой школе.

Жадаючыя паступіць у 8-ю клясу, або перавясьціся з іншае гімназіі ў гэтую клясу, павінны зьвярнуцца з просьбаю „Do Kuratorjum Okręgu Szkolnego Białostockiego w Białymstoku“ аб дазволе, далучыўшы да паданьня вышэй абазначаныя дакумэнты.

Пры Гімназіі ад 8 красавіка г. г. істнуе на кошт Ураду інтэрнат для хлопцаў і дзяўчат пасобку на наступных варунках:

Памешканьне, апал, сьвятло, жалезнае ложка, прыслуга і наагул уся абстанова—бясплатна, пасьцель-жа і порце ўласнае.

На утрыманьне бярэцца ў месяц: 24 кілёгр. жытняй мукі, 4 кл. пшанічнай мукі, 4 кл. круп, 2 кл. сала, 32 кл. бульбы.

Па жаданьню бацькоў, замест прадуктаў, можа быць плата ў грошах, паводле каштоўнасьці гэтых прадуктаў.

Заняткі ў Гімназіі пачнуцца 1-га верасьня.

ДЫРЭКЦЫЯ.

Рэдактар-выдавец Ф. УМЯСТОЎСКІ Выд. Т-ва „Pogoń“ Друк. „Pax“, вул. Сьв. Ігната 5.